# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 6 (169)
чэрвень 2016

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"



## У НУМАРЫ:

### "Я не ведаў, што можна спаць на печы"

Дырэктар "Радыё Свабода" Аляксандр Лукашук наведаў выдавецтва "Random House" у Нью-Ёрку, якое выпусціла кнігу "Час second hand", і гутарыў з рэдактарам кнігі Сэмам Нікалсанам.

**Працяг на стар. 3**

### "Мяне натхняе старая мудрасць: помнім мы – не забудуць і нас"

Спадарыня Валянціна Трыгубовіч, якая займаецца ўпарадкаваннем архіваў Беларускай фундацыі Крачэўскага, распавяла пра Фундацыю.

**Працяг на стар. 5**

### Пані Эльжбета, пажыццёвы пасол беларушчыны ў Польшчы

85-годдзе адзначае знаная беларусістка, былая кіраўніца кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта і кафедры беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку, першы амбасадар Польшчы ў Беларусі Эльжбета Смулкова.

**Працяг на стар. 7**

### У Іркуцку адкрылі этнакавярню ў беларускім стылі

У "Беларускай глебе" будуць падаваць толькі беларускія стравы.

**Працяг на стар. 8**




# SYMPA І "БУДЗЬМА!" ПРЫВЕЗЛІ ГРУЗІНСКІ ДОСВЕД

Грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!" і Школа маладых менеджараў публічнага адміністравання SYMPA распачалі рэгіянальную праграму "Разам да справы" з мэтай развіцця грамадзянскай свядомасці і дзеяў.

Сярод першых крокаў праграмы – азнаямленчы візіт у Грузію пад назвай "Прынцыпы добрага кіравання ў сферы культуры і ўстойлівага развіцця: грузінскі досвед".

Дваццаць беларусаў – грамадскіх актывістаў, прадстаўнікоў СМІ, навучальных і навуковых установаў, бізнесу з усіх рэгіёнаў краіны – з 22 па 28 мая бралі ўдзел у насычанай праграме. Яны пазнаёміліся з прагрэсіўным і актуальным для Беларусі досведам грузінскіх дзяржаўных і недзяржаўных арганізацый, атрымалі адказы на пытанні пра развіццё інстытута мясцовага самакіравання, пра складанасці ў фармаванні культурніцкай палітыкі, а таксама пра ўзаемадзеянне дзяржавы і грамадскіх структур, празрыстасць дзяржаўных установаў і іх адкрытасць да супрацы. Адбыліся сустрэчы з супрацоўнікамі Міністэрства рэгіянальнага развіцця і інфраструктуры, Міністэрства культуры і аховы помнікаў, Міжнароднага адукацыйнага цэнтра пры грузінскім урадзе, Міністэрства ўнутраных спраў, Дома юстыцыі, Свабоднага ўніверсітэта Тбілісі, Нацыянальнай адміністрацыі турызму. Адбыліся візіты беларускай дэлегацыі ў мэрыі і гарадскія саветы Тбілісі, Руставі і Мцхеты. Падзяліліся сваім досведам і ідэямі прадстаўнікі цэлага шэрагу недзяржаўных арганізацый: Асацыяцыі маладых юрыстаў, Міжнароднага цэнтра грамадзянскай культуры, Каўказскага інстытута міру, дэмакратыі і развіцця, Агенцтва грамадзянскага развіцця.

Грузінскія палітыкі, дзяржаўныя службоўцы і эксперты вельмі адкрыта распавялі пра праблемы, якія паўсталі перад краінай за апошнія 25 гадоў, а таксама пра тое, як удалося вырашыць тую ці іншую праблему.

Культурная праграма дазволіла ўдзельнікам пазнаёміцца з рэалізацыяй культурнай палітыкі ў дзеянні. Беларусы наведалі экскурсіі па Тбілісі і Мцхеце, наведалі нацыянальны музей Грузіі, манастыр Джвары. Не абмінулі і святкаванне Дня незалежнасці Грузіі 26 мая.

**"Будзьма беларусамі!"**

**навіны**

# ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ ПРОСІЦЬ НАДАЦЬ МІНСКАМУ АЭРАПОРТУ ІМЯ СКАРЫНЫ

Прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі звярнуліся да прэм'ер-міністра Андрэя Кабякова, у Мінгарвыканкам і Мінгарсавет, а таксама да Аляксандра Лукашэнкі з просьбай належным чынам ушанаваць 500-годдзе беларускага кнігадруку. У прыватнасці, яны просяць надаць Нацыянальнаму аэрапорту імя Францішка Скарыны.

Зварот падпісалі Адам Мальдзіс, Алег Трусаў, Станіслаў Шушкевіч, Мечыслаў Грыб і іншыя.

Сярод іншых просьбаў – ініцыяваць усталяванне помніка Скарыну ў цэнтры Вільні, у Кракаве, Кіеве і Маскве, надаць імя Францішка Скарыны адной з цэнтральных магістраляў Мінска, абвесціць Беларускім Днём Друку 6 жніўня. Менавіта ў гэты дзень была надрукаваная першая кніга, у якой ужывалася старабеларуская мова.

**Паводле "Радыё Свабода"**

навіны

# КАЛЯ БЕЛАРУСКАГА ЦЭНТРА Ў ЛОНДАНЕ АДКРЫЛАСЯ ВЫСТАВА ПРА ЧАРНОБЫЛЬ

Каля Беларускай каталіцкай місіі ў Лондане адкрылася выстава да 30-годдзя аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Яна праходзіць у межах Лонданскага фестывалю архітэктуры.

16-метровы тунэль-інсталяцыю зрабіла архітэктурнае бюро "Spheron Architechts" пад кіраўніцтвам Цзыўая Со. Тунэль перадае атмасферу, у якой працавалі ратаўнікі-шахцёры пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Каб дабрацца да рэактара, дзесяць тысяч савецкіх шахцёраў выкапалі 150-метровы тунэль. Дзве з паловай тысячы з іх памерлі, не дажыўшы да 40 год.

У імправізаваным тунэлі праходзіць выстава ўраджэнца вёскі Карма-Пайкі Краснапольскага раёна Аляксандра Трафіменкі, які разам з сям'ёй быў вымушаны пераехаць ва Украіну пасля адсялення вёскі. Таксама тут прадстаўленыя фатаграфіі Юрыя Міхеда і Лінды Ўолкер. У цэнтры выставы стаіць мадэль беларускай драўлянай царквы Святога Кірылы Тураўскага. Адначасова гэтая царква з'яўляецца храмам-помнікам ахвярам Чарнобыльскай аварыі за мяжой.

"Мы хацелі распавесці жыхарам Лондана пра Чарнобыльскую аварыю, – сказаў Цзыўай. – Пра тое, што 60–70% радыеактыўных ападкаў выпалі на тэрыторыю Беларусі".



Тунэль-выстава, адкрытая ў межах Лонданскага фестывалю архітэктуры. Фота: Joakim Boren

Выстава-тунэль была адкрытай увесь чэрвень у выходныя з 14 да 17-й гадзіны.

"Мы планавалі прыбраць выставу пасля закрыцця фестывалю, – кажа Цзыўай. – Аднак, калі мы атрымаем добрыя водгукі, магчыма, працягнем яе на месяц ці два".

**Паводле Антон Трафімовіч, "Радыё Свабода"**

навіны

# БЕЛАРУСЫ ЧАРНІГАВА НА ФЕСТЫВАЛІ "ПОЛІСЬКЕ КОЛО"

21 мая 2016 г. у Чарнігаўскім цэнтральным парку культуры і адпачынку прайшоў 11-ы Міжнародны фальклорны фестываль нацыянальных культур "Поліське коло".

Падчас урачыстага адкрыцця фестывалю з прывітальным словам выступілі першы намеснік старшыні абласнога савета Валянцін Мельнічук, першы намеснік старшыні абласной дзяржаўнай адміністрацыі Леанід Сахневіч.

Традыцыйна ў праграме фестывалю прадстаўлялі асаблівасці нацыянальнай культуры ды кухні беларусы, палякі, габрэі, цыгане, немцы і азербайджанцы. А сёлета ў Чарнігаве з'явіўся цэнтр карэйскай культуры, і яго прадстаўнікі таксама сталі ўдзельнікамі фестывалю.

Беларускае нацыянальнае культурнае таварыства "Сябры" на фестывалі прадставіла выставу дэкаратыўна-выяўленчага мастацтва, падворак і беларускую кухню. Як звычайна, гасцей частавалі беларускімі дранікамі.

На фестываль "Поліське коло" прыехалі 16 фальклорных калектываў і 8 нацыянальных таварыстваў.

**Галіна Варажбіт**

# ВІНШУЕМ ЛЮБОЎ АДАСКЕВІЧ З ЮБІЛЕЕМ!

4 ліпеня юбілей святкуе сябра Вялікай Рады МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"» Любоў Адаскевіч (Расія).

Сардэчна віншуем шаноўную спадарыню Любоў з юбілеем і жадаем моцнага здароўя, душэўнай цеплыні, сяброўскай падтрымкі і бадзёрага настрою.

**Інфармацыйны цэнтр МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"»**

# ВІНШУЕМ АНТОНА ШУКЕЛОЙЦЯ З 101-ГОДДЗЕМ!



19 ліпеня спаўняецца 101 год Антону Шукелойцю, слыннаму дзеячу беларускай эміграцыі, які даўно жыве ў Нью-Ёрку.

Далучыўшыся да беларускага жыцця ў міжваеннай Вільні, спадар Антон займаўся грамадскай і асветніцкай дзейнасцю. Па далучэнні Заходняй Беларусі да БССР арганізаваў у Ашмянскім павеце каля 90 беларускіх школаў. Зазнаў засценкі НКУС і нямецкую акупацыю, падчас якой не спыняўся працаваць на карысць беларускай справы. Яскравы прадстаўнік паваеннай эміграцыі, Антон Шукелойць, беручы ўдзел амаль што ва ўсіх накірунках грамаскай працы эміграцыі, спрычыніўся да таго, каб гэтая хваля эміграцыі заслужана займела славу найбольш плённай, а амерыканцы яшчэ больш даведаліся пра Беларусь. Спадар Антон аўтар дзясяткаў артыкулаў і ўспамінаў, друкаваных у газетах "Бацькаўшчына" і "Беларусь". Ён узначальваў Беларуска-Амерыканскае задзіночанне, арганізацыю, што аб'ядноўвае беларусаў Амерыкі, трыццаць два гады – гэта амаль палова гісторыі яе дзейнасці.

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" ад шчырага сэрца віншуе Антона Шукелойца з Днём нараджэння! Зычым моцнага здароўя, натхнення, плёну і яшчэ шмат гадоў цікавага і шчаслівага жыцця.

**Інфармацыйны цэнтр МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"»**

навіны

## У ГРУЗІІ ПРАХОДЗІЦЬ ВЫСТАВА, ПРЫСВЕЧАНАЯ ЯНКУ КУПАЛУ

2–4 чэрвеня ў Цхалтубо прайшла выстава, прысвечаная грузінскім матывам у творчасці паэта.

Арганізатары – Грузінскае культурна-асветніцкае таварыства "Мамулі", Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы, Упраўленне па турызме і культуры горада Цхалтубо і Guest House in Tskaltubo пры падтрымцы мэрыі горада Цхалтуба.

"Янка Купала меў вельмі добрыя сяброўскія стасункі з галоўным урачом санаторыя ў Цхалтуба Элік Метэхелі і менавіта ёй прысвяціў верш "Генацвале". Мы знайшлі ў Тбілісі яе ўнукаў, яны павінны быць на адкрыцці", – распавялі арганізатары.

Напачатку мая ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы праходзіла выстава ювелірных вырабаў і ўпрыгажэнняў "Капае золата з праменем сонца", дзе былі прадстаўлены работы грузінскіх мастакоў Экі Хурцыдзе, Русудан Цалкаламанідзе, Тамар Пацурыя і Экі Дзадзамія. Менавіта тады было вырашана правесці дні Купалы ў Грузіі, у тым месцы, якое ён часта наведваў.

**Паводле gazetaby.com**

гутарка

# Амерыканскі рэдактар Алексіевіч: “Я НЕ ВЕДАЎ, ШТО МОЖНА СПАЦЬ НА ПЕЧЫ”

На гэтым тыдні пачынаецца амерыканская паездка Нобелеўскай лаўрэаткі Святланы Алексіевіч. Напярэдадні дырэктар Радыё Свабода Аляксандр Лукашук наведаў выдавецтва “Random House” у Нью-Ёрку, якое выпусціла кнігу “Час second hand”, і гутарыў з рэдактарам кнігі Сэмам Нікалсанам.

Выдавецтва “Penguin Random House” – самае вялікае ў свеце, з аб’ёмам продажаў больш за чатыры мільярды даляраў – упершыню выпусціла кнігу аўтара з Беларусі. На вокладку вынесеныя словы Нобелеўскага лаўрэата 2003 года Джона Кутзее: “Зачароўвае… Аркестр Алексіевіч выконвае багатую сімфонію расійскіх галасоў, якія расказваюць свае гісторыі любові і смерці, радасці і бяды”. Тэкст ад выдавецтва таксама апісвае кнігу музычнай – і “расійскай/рускай” – тэрміналогіяй: “magnum opus, сімфанічная вусная гісторыя распаду Савецкага саюза і нараджэння новай Расіі”. У рэкламных матэрыялах, адрасаваных амерыканскаму чытачу, паняцці “Расія, рускі, расійскі” часта выкарыстоўваюцца як сінонімы для абазначэння паняццяў “Савецкі саюз, савецкі, пост-савецкія краіны, народы” – без увагі на гэтыя важныя для еўрапейцаў і саміх герояў кнігі адрозненні. Як спрабавалі патлумачыць мне ў Нью-Ёрку, гэта ідзе не столькі ад няведання ці патрабаванняў маркетынгу, колькі ад асаблівасці самой амерыканскай культуры, якая базуецца не на мове ці нацыянальнай прыналежнасці, а на феномене іміграцыі.

**Аляксандр Лукашук (Радыё Свабода): Як вам як рэдактару было працаваць над гэтай кнігай?**

**Сэм Нікалсан (Sam Nickolson, Random House):** З радасцю! Гэта быў вельмі інтэнсіўны перыяд – у мяне было тры тыдні на рэдагаванне перакладу. Тры тыдні на 500-старонкавую кнігу – гэта вельмі напружанае рэдагаванне. Гэта быў вельмі напружаны досвед, бо гэта вельмі моцная, эмацыйна зараджаная кніга. Але гэта была радасць.

**АЛ: А як вы ўспрынялі навіну пра Нобелеўскую прэмію?**

**СН:** “Random House” набыў правы амаль адразу пасля прысуджэння, на працягу тыдня. Хаця гуманізм творчасці Святланы Алексіевіч вельмі ўніверсальны, аднак тэма вырашаецца праз прызму Савецкага саюза, праз “савецкага чалавека”. Таму рашэнне пра прэмію для мяне было вельмі цікавым. Я думаў, што Нобелеўскую прэмію прысудзяць за нешта больш “агульначалавечае”. Яна, канечне, заслужаная, але…

**АЛ: Ну, як прыклад універсальнасці, у Парыжы праходзіў фестываль спектакляў паводле “Чарнобыльскай малітвы”, і на працягу месяца сваю пастаноўку паказвалі тэатры са Швецыі, Швейцарыі, Вялікабрытаніі, Нямеччыны, Польшчы, Францыі… Кнігі Алексіевіч вельмі папулярныя ў розных краінах Еўропы. Але вернемся да кнігі – вы казалі пра радасць рэдагавання?**

**СН:** Ведаеце, прэмія – гэта цудоўна, і само сабой, я ганаруся, што мы публікуем лаўрэатку Нобелеўскай прэміі. Але яшчэ больш я ганаруся тым, якая гэта кніга, якога кшталту. Коратка пра сябе: мае дзед і баба перажылі Халакост. Яны родам з Польшчы, Лодзь і Варшава, і перажылі Аўшвіц. У Амерыку прыехалі, не ведаючы ані слова пангельску. Я з імі праводзіў шмат часу, бо мае бацькі працавалі дапазна. І я пастаянна чуў іх расповеды пра той час. Гэта такі ўрок значнасці гісторый простых людзей. І калі я быў малы, яны расказвалі вельмі аблегчаную версію падзей. Калі я падрос, толькі тады я пачаў разумець усю іх складанасць. Для мяне было вельмі важна зразумець, што тую самую гісторыю можна расказаць па-рознаму.

**АЛ: І вы гэта ўсведамлялі, калі слухалі?**

СН: Абсалютна. Я надаваў гэтаму вялікую ўвагу. І я ганаруся гэтай кнігай Алексіевіч менавіта таму, што там ёсць праўда і складанасць гісторый простых, звычайных людзей. Сіла і здольнасць аўтара так расказаць гэтыя гісторыі, даць гісторыю эпохі праз гісторыі людзей, на маю думку, надзвычай уражваюць. Я не ведаю, ці хто калі-небудзь зрабіў падобнае. Я дакладна ніколі не бачыў менавіта такога партрэту. Форма кнігі, на маю думку, унікальная. Гэта была радасць.

**АЛ: У выданні “Random House” зменены аўтарскі падзагаловак: замест “чырвонай утопіі” стала “апошнія з савецкіх людзей” (“The Last of the Soviets”).**

СН: Так, мы палічылі, што “чырвоная ўтопія” будзе менш зразумелая. “Апошнія з савецкіх” таксама праясняюць геаграфію і час для чытачоў.

**АЛ: А што яшчэ вам як рэдактару трэба было мяняць, каб было зразумела амерыканскаму чытачу?**

СН: Напрыклад, “мазанкі” ці “зямлянкі”. Амерыканцы не ведаюць, што гэта, такога няма у нашым лексіконе. Звычайна гэта пытанне тэрміналогіі. Яшчэ прыклад – там быў такі радок пра людзей, якія спалі на печы. Я ніколі не чуў, каб так людзі спалі! Я спытаўся перакладчыцу, Бэлу Шаевіч, можа гэта памылка? Чаму?! Можа, яна мела на ўвазе – каля печы? Я ніяк не мог гэта ўявіць. Іншымі словамі, праблемы заўсёды былі такога культурнага кшталту. Але што тычыцца сэнсу гэтых гісторый – а яны вельмі прывязаныя да часу і месца, – яны маюць вельмі ўніверсальныя тэмы. І ў мяне ніколі не было праблем з разуменнем гэтых гісторый. І, канечне, Бэла выканала гіганцкую перакладчыцкую працу, і мая праца была параўнальна лёгкай.

**АЛ: Хто з жывых амерыканскіх пісьменнікаў заслугоўвае Нобелеўскай прэміі?**

**СН:** Проста так сходу… Дон Дэліла. Філіп Рот. Я думаю, Джоан Дыдыён – гэта было б у жанры нон-фікшн. Дэніс Джонсан. Маргарэт Этвуд таксама заслугоўвае…

**АЛ: Святлана Алексіевіч – пісьменніца з Беларусі. Што, па-вашаму, амерыканскі чытач ведае і будзе ведаць пра Беларусь пасля гэтай кнігі?**

**СН:** Я сам трохі ведаю… Але дакладна ведаю больш пасля працы над гэтай кнігай і вывучэння творчасці Святланы. Амерыка – незвычайная краіна ў сэнсе культуры. Наша культура базуецца не на нацыянальнасці ці мове. Літаратура іншых народаў вельмі часта пра групу людзей з адной гісторыяй і агульнай мовай, і з гэтай мовы вырастае іх культура. Асноватворны прынцып у Амерыцы – іміграцыя. Для амерыканскага рамана – нават калі ён не пра іміграцыю – гэта больш важная частка нашай культуры. Гэта фундаментальная рыса Мэлвіла, гэта фундамэнтальна для Фолкнера, для Ралфа Элісана, для Хэмінгуэя. Таму што гэта робіць нас нацыяй. Мы нацыя імігрантаў.

***

“Random House” таксама набыў правы на яшчэ дзве кнігі Святланы Алексіевіч – “У вайны не жаночае аблічча” і “Апошнія сведкі”, якія запланаваныя да выхаду ў 2017 годзе.

Ад рэдакцыі: На гэтым тыдні пачынаецца амерыканскае падарожжа Святланы Алексіевіч. Яна будзе выступаць у Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы, у Публічнай бібліятэцы ў Брукліне, у Вашынгтоне імпрэзу ў гонар Нобелеўскай леўрэаткі ладзіць Нацыянальны фонд дэмакратыі, запленаваныя сустрэчы з беларускай дыяспарай, з рэдкалегіяй газеты “The Washington Post”, іншымі СМІ.

***Аляксандр Лукашук, “Радыё Свабода”***



Сэм Нікалсан

## ВІНШАВАННІ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, якія нарадзіліся ў ліпені: Алену Макоўскую (Беларусь), кіраўніка згуртавання, Марыну Адамовіч (Беларусь), Алега Гардзіенку (Беларусь), Наталлю Гардзіенку (Беларусь), Барыса Сачанку (Беларусь), Алеся Станкевіча (Беларусь), Ганну Сурмач (ЗША), Захара Шыбеку (Ізраіль), Віталя Бартохава (Украіна).

Жадаем шаноўным імяніннікам добрага здароўя, творчага натхнення, доўгіх гадоў жыцця і поспехаў у працы.

гутарка

# ЯК КІТАЙСКІ АРХІТЭКТАР У ЛОНДАНЕ ПАЗНАЁМІЎСЯ З БЕЛАРУСАМІ, СТАЎ УНІЯТАМ І СПРАЕКТАВАЎ БЕЛАРУСКУЮ ЦАРКВУ

"Першы драўляны храм Лондана з 1666 года". Пад такой назвай на гэтым тыдні выйшаў артыкул у брытанскай газеце "The Times" пра беларускую царкву. Аўтар праекта – кітайскі архітэктар Со Цзыўай (Tszwai So). Чым яго зацікавіла ўніяцтва і чаму ён працаваў над стратным для кампаніі праектам царквы – у інтэрв'ю Свабодзе.



Цзыўай на будоўлі беларускай царквы. Sasha Belavokaya

## Некаторыя думаюць, што Беларусь заснавалі "белыя", якія ўцякалі ад бальшавікоў

35-гадовы Со Цзыўай родам з Кітая. Яшчэ дзіцем ён пераехаў з бацькамі ў Ганконг. Там вывучыўся на архітэктара, а потым прыехаў вучыцца ў Лондан. У Брытаніі жыве з 2003 года. Цяпер кіруе невялікім архітэктурным бюро "Spheron Architects" і працуе над магістарскай працай у Кембрыджскім універсітэце.

Пра Беларусь Со Цзыўай даведаўся выпадкова. У 2007-м пазнаёміўся з айцом Сяргеем Стасевічам, калі Беларуская каталіцкая місія прадавала адзін са сваіх будынкаў. Дагэтуль пра "Белую Расію", як краіна называецца ў кітайскай мове, меў цьмянае ўяўленне. Пасля знаёмства з беларускімі ўніятамі ў Лондане Цзыўай стаў вывучаць гісторыю Беларусі. А ў 2011 годзе ён вырашыў прыняць уніяцкі хрост.

"Для мяне ўніяцкі абрад у нечым больш чароўны, – кажа ён. – Можа, гэта выглядае вельмі дзіўна, калі нехта звонку супольнасці далучаецца да царквы. Але я хадзіў у рыма-каталіцкую школу, а таму каталіцызм для мяне не быў новым".

Паводле слоў архітэктара, ён не адзіны замежнік сярод вернікаў беларускай царквы. Сюды прыходзяць мужы і жонкі мясцовых беларусаў. І хоць ён не ведае беларускай мовы, у царкву ходзіць пастаянна.

"Я ведаю ўсю літургію на памяць, а казань мне перакладаюць сябры".

## Я часцей перарабляў цэрквы пад жытло

Цзыўай ужо працаваў над іншымі культавымі будынкамі. Праўда, звычайна прыстасоўваў храмы пад камерцыйныя ці жылыя памяшканні.

"Вялікабрытанія становіцца ўсё больш секулярызаванай, і новыя цэрквы – даволі рэдкі выпадак, – кажа ён. – Усё часцей будынкі цэркваў прадаюцца прыватным дэвелаперам".

Цзыўай кажа, што не мог адмовіцца ад прапановы Сяргея Стасевіча зрабіць праект царквы. Хоць праца была не самая прыбытковая і не самая простая, узяўся ён за яе адразу.

Царква Святога Кірылы Тураўскага ўзводзіцца ў 30-ю гадавіну аварыі на ЧАЭС. А таму яна будзе не проста храмам, але яшчэ і помнікам ахвярам Чарнобыля. Галоўнай умовай новага праекту было – падкрэсліць беларускасць царквы.

"Пра Марыян Хаўз людзі думалі як пра расійскую праваслаўную царкву, – кажа Цзыўай. – Яны чулі славянскую мову, бачылі, што царква візантыйскага абраду, і думалі, што тут расійцы".

## Перакладаў кнігі з беларускай мовы праз Google Translate

Першай крыніцай ведаў пра беларускую архітэктуру для Цзыўая была Беларуская бібліятэка-музей імя Францішка Скарыны, якая месціцца ў тым самым Марыян Хаўз.

"Я цэлыя дні праводзіў у бібліятэцы са сваім камп'ютарам, чытаў кнігі па-беларуску з дапамогай Google Translate. Гэта было вельмі цяжка".

Але адных тэкстаў і фота было недастаткова. Цзыўай кажа, што не меў "пачуцця беларускай архітэктуры", а таму ў 2012 годзе паехаў у Беларусь.

"Каб я не паехаў туды і не пабачыў усё на ўласныя вочы, я б не меў пачуцця беларускай архітэктуры", – кажа ён.

У Беларусі ён правёў каля двух тыдняў. Яго тут суправаджала Ірына Дубянецкая, доктар філасофіі і сакральнай тэалогіі. У адрозненне ад звычайных замежных турыстаў, Цзыўай рушыў у глухія вёскі Лідскага і Івацэвіцкага раёнаў. Ганчары, Бялавічы, Абровічы, дзе пабываў Цзыўай, – сапраўды не самыя папулярныя турыстычныя мясціны.

"Мой праект царквы грунтуецца на тых цэрквах, што былі пабудаваныя выбітнымі беларускімі архітэктарамі і цеслярамі. Усе прынцыпы сапраўднай беларускай царквы я склаў разам і дадаў да іх сучасную форму".

## Драўляныя цэрквы Беларусі павінны быць у Спісе сусветнай спадчыны ЮНЭСКА

Цзыўай застаўся вельмі ўражаны Беларуссю. Яшчэ больш яго ўразіла, ці, хутчэй, засмуціла, што драўляная архітэктура, якая захавалася па вёсках, у Беларусі не шануецца.

"Гэта тое, чым беларусы павінны ганарыцца, – кажа Цзыўай. – Я думаю, што толькі з прычыны няведання людзі не дбаюць пра тыя цэрквы".

Ён прыводзіць у прыклад драўляную архітэктуру Паўднёвай Польшчы, Украіны, Славакіі, Румыніі, Нарвегіі і Расіі. Усе яны ўваходзяць у спіс Сусветнай спадчыны ЮНЭСКА.

На думку Цзыўая, да беларускіх цэркваў не дабраліся своечасова спецыялісты, каб ацаніць іх каштоўнасць. А таму яны проста трухлеюць без нагляду, якога вартыя.

З іншага боку, шмат якія здабыткі архітэктуры былі адмыслова разбураныя ў Беларусі. Асабліва ўразіла архітэктара знішчэнне касцёла Святога Станіслава ў Пінску ў 1953 годзе.

## Хачу вывучыць мову, каб напісаць кнігу пра беларускую архітэктуру

Царква Святога Кірылы Тураўскага павінна адкрыцца ўжо ў лістападзе 2016 года, сказаў Свабодзе айцец Сяргей Стасевіч. У Лондане яна ўжо набыла вядомасць як першы драўляны храм, збудаваны пасля Вялікага пажару 1666 года.

З беларускай архітэктурай Со Цзыўай на гэтым праекце не развітваецца. Сёлета ці ў наступным годзе ён збіраецца наведаць курс беларускай мовы для замежнікаў у БДУ. Мова Цзыўаю патрэбная для яго нага даследавання па беларускай архітэктуры. Апошняя з брытанскіх даследчыкаў беларускай архітэктуры Лінзі Х'юз (Lindsay Hughes) памерла некалькі год таму, і Цзыўай не можа знайсці для сваёй працы навуковага кіраўніка.

"Мая мара – супрацоўнічаць з беларускімі даследчыкамі, каб падрыхтаваць кнігі пра беларускую архітэктуру на ангельскай мове. Каб працаваць з арыгінальнымі матэрыяламі, мне трэба ведаць мову".

Але на дасканалае вывучэнне мовы можа пайсці шмат часу, кажа Цзыўай. Таму ён шукае беларускіх даследчыкаў, якія ведаюць ангельскую мову і гатовыя супрацоўнічаць з ім.

**Антон Трафімовіч, "Радыё Свабода"**

гутарка

# Валянціна Трыгубовіч: "МЯНЕ НАТХНЯЕ СТАРАЯ МУДРАСЦЬ: ПОМНІМ МЫ – НЕ ЗАБУДУЦЬ І НАС"

Спадарыня Валянціна Трыгубовіч, якая ўжо амаль год займаецца ўпарадкаваннем архіваў Беларускай фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк, ЗША), ласкава пагадзілася распавесці пра Фундацыю, яе мэты, а таксама пра каштоўнасць збораў, якія там захоўваюцца, і пра далейшыя планы па іх выкарыстанні.



Валянціна Трыгубовіч з унукамі на Таймс-сквэр напярэдадні Новага году.

**– Распавядзіце, калі ласка, пра Фундацыю: якія мэты мае? Як даўно была створаная?**

– Фундацыя імя Пётры Крачэўскага (Kreceuski Foundation, Inc.) паўстала ў 1959 годзе ў Нью-Ёрку. Яе заклалі беларускія дзеячы паваеннай хвалі эміграцыі. Назву далі ў памяць першага старшыні Рады БНР на выгнанні Пётры Крачэўскага. У складзе першай Рады дырэктараў Фундацыі былі Вітаўт Тумаш (старшыня), Антон Адамовіч, Наталля Арсеннева, Янка Запруднік, Віталь Кажан, Кастусь Мярляк, Антон Шукелойць. Першы значны фінансавы ўнёсак зрабіла Рада БНР: у 1960 годзе яе старшыня Мікола Абрамчык перадаў ахвяраванні на стварэнне эміграцыйнага музея-архіва. Праз некалькі гадоў былі купленыя ў крэдыт чатыры дамы, у адным з іх памяшканні прызначаліся для грамадскіх патрэб, а іншыя – здаваліся ў арэнду дзеля пакрыцця выдаткаў ды выплаты крэдыту. Пакрысе збіраліся кнігі і розныя дакументы, што меліся стаць асновай архіва-музея. На жаль, слабае гаспадаранне і заняпад рынку нерухомасці ў гэтым раёне прывялі да продажу трох будынкаў. На сёння ўласнасцю Фундацыі з'яўляецца адзін трохпавярховы дом, на першым паверсе якога размяшчаюцца нашы архіўныя зборы, а на другім-трэцім жывуць кватаранты, коштам якіх аплочваюцца асноўныя выдаткі Фундацыі. Пасля рэгістрацыі Фундацыі тыя беларусы, што лепш ведалі амерыканскае заканадаўства, спрабавалі змяніць статус грамадскай арганізацыі на беспадатковы, аднак справа так і не была даведзеная да канца. Гэтым занялося новае кіраўніцтва два гады таму. І вось маем: ад сёлета Фундацыя вызваленая ад шмат якіх падаткаў. Зэканомленыя грошы пойдуць на ўласныя праекты. Называемся мы цяпер "Беларуская фундацыя Крачэўскага" ("Belarusian Kreceuski Foundation").

**– Якія архівы захоўваюцца ў Фундацыі? Якіх беларускіх дзеячаў і ў якім аб'ёме?**

– Мы збіраем дакументальныя сведчанні дзейнасці беларусаў за межамі Бацькаўшчыны. Дакладна сказаць, што ёсць у зборах, я пакуль не ў стане, бо парадкую іх менш як год. Я нават не магу ўжываць слова "архівы", бо тое, з чым маю справу, – неўпарадкаваны збор. Аднак большасць наяўных матэрыялаў так ці інакш дакументуе дзейнасць беларускай эміграцыі паваеннай хвалі.

**– У чым каштоўнасць гэтых, як вы кажаце, збораў? Для каго найперш яны ўяўляюць каштоўнасць сёння?**

– Гэтыя паперы, фатаграфіі, магнітныя стужкі ды іншыя рэчы зафіксавалі частку гісторыі беларускага народу ў ХХ стагоддзі. Яны найперш патрэбныя даследчыкам, што вывучаюць гэты перыяд. А там будзе відаць... Можа, паводле іх нехта створыць тэлесерыял ці напіша прыгодніцкі раман.

**– Распавядзіце, калі ласка, у чым палягае ваша праца па ўпарадкаванні збораў. З якімі складанасцямі сутыкаецеся? Ці дапамагае вам хтосьці?**

– Фундацыя – гэта грамадская арганізацыя, якою кіруе Рада дырэктараў. Цяпер гэта шэсць асоб: Вячка Станкевіч (старшыня), Ала Орса-Рамана (заступнік старшыні), Валеры Дворнік (скарбнік), Галіна Тумаш, а. Ігар Лабацэвіч і я. Кожны дырэктар адказны за нейкую дзялянку працы, але ўся яна робіцца скаардынавана. Клопат пра кнігі, дакументы, творы выяўленчага мастацтва ды іншыя музейныя каштоўнасці ляжыць на нас з а. Ігарам Лабацэвічам. Ён – прафесійны архівіст, ведае ўсе тутэйшыя стандарты. Спадар Валеры Дворнік, адказны за гаспадарку, мае абавязак забяспечыць нас "правільнымі" матэрыяламі – працаваць я мушу ў спецыяльных пальчатках, скрынкі, тэчкі ды ўсё іншае набываем на адмысловым архіўным сайце. У свой вольны час гатовыя дапамагчы маладзейшыя актывісты, асабліва гісторыкі.

**– Якія беларускія мерапрыемствы праводзяцца цяпер у Фундацыі?**

– Сходы, нешматлюдныя імпрэзы. У сакавіку было пасяджэнне Рады БНР. У красавіку адбыўся "круглы стол" з тэмаю "Урокі Украіны для Беларусі": частка ўдзельнікаў дыскусіі прысутнічала ў нашай зале, частка далучылася да размовы праз скайп.

**– Упарадкаванне архіваў, патрабуе шмат часу й цярпення. Што дае вам сілы і ўвогуле натхняе па жыцці?**

– Маеце рацыю, праца бывае бруднай, нуднай і маруднай. Але яе трэба зрабіць у памяць тых людзей, якія праз усю "халодную вайну" пранеслі сцяг беларускай незалежнасці, ахвярна змагаліся за тое, каб краіна Беларусь паўстала на мапах свету. Паваенныя эмігранты на міжнароднай арэне падрыхтавалі наш 1991 год. А што натхняе? Старая мудрасць: помнім мы – не забудуць і нас.

**– Як даўно вы жывяце ў ЗША? Ці змяніўся, на вашу думку, партрэт беларускай дыяспары ЗША за гэты час?**

– Я жыву тут ад 2008 года. Прыехала дапамагчы сыну з нявесткай падгадаваць малога. Хутка нарадзіўся другі... Дыяспара змянілася, несумненна. Я магу параўноўваць яе ад 1992 года, калі ўпершыню прыехала на Сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі. Мы тады з дэпутатам Валянцінам Голубевым прадстаўлялі Беларускі народны фронт і Апазіцыю ў Вярхоўным Савеце. А міністр замежных спраў Пётр Краўчанка – урадавыя структуры.

Колішняя й сённяшняя эміграцыі кардынальна адрозныя. Паваенныя апынуліся на чужыне змушана, ратуючы сваё жыццё ды амаль не спадзеючыся на вяртанне, а цяперашнія з уласнай волі едуць самарэалізоўвацца й маюць магчымасць у кожную хвіліну сесці на зваротны самалёт. Змянілася ў лепшы бок сусветная сістэма камунікацый. У старой і новай хвалі розныя светапогляд, мэты, магчымасці...

**– Чым вы займаецеся яшчэ, акрамя парадкавання архіўных збораў у Фундацыі?**

– Рэдагую кнігі, пішу ўспаміны... У мінулым годзе ў мінскім выдавецтве "Лімарыус" выйшла кніга лістоў Янкі Запрудніка, вядомага эміграцыйнага дзеяча: "Па гарачых слядах мінуўшчыны". Я была рэдактарам, пісала прадмову. Сёлета, спадзяюся, спадар Фядута выдасць чарговы нумар альманаха "Асоба і час". Там мае быць публікацыя памяці Веры Чуйко, выбітнай асобы беларускага Адраджэння пачатку 90-х, маёй сяброўкі й паплечніцы. Збіраць матэрыялы для гэтай публікацыі мне было няпроста – прыемна гаварыць пра яе ды балюча ад усведамлення, што ў мінулым часе.

**– А ці ёсць цікавасць да архіваў з боку навукоўцаў Беларусі? Ці мяркуецца супрацоўніцтва з беларускімі архівамі ды фондамі?**

– Ёсць і будзе. У красавіку да нас з візітам зазірнула спадарыня Наталля Гардзіенка, знаны мінскі даследчык эміграцыі. У траўні ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ў Мінску адбылася прэзентацыя калекцыі дакументаў, датычных "Нашай Нівы", сярод якіх паштоўкі, што былі дасланыя братам Луцкевічам, допісы карэспандэнтаў з розных мясцін Беларусі ды шмат іншага. Гэтую прыватную калекцыю Фундацыя выкупіла й перадала ў дар БДАМЛМ. Ужо амаль год мы камунікуем з Вячкам Целешам, мастаком і даследчыкам з Рыгі, які піша кнігу пра беларускіх мастакоў Латвіі, дапамагаем яму сабраць інфармацыю ды рэпрадукцыі твораў Пётры Мірановіча, які па вайне жыў у ЗША. Спадар Вітаўт Кіпель, які рыхтуе да перавыдання сваю кнігу "Беларусы ў ЗША", час ад часу просіць пашукаць нейкія звесткі.

Галоўнае для мяне цяпер – упарадкаваць нашы шматгадовыя зборы. А потым можна дбаць пра пашырэнне інфармацыі – зрабіць сайт, запрашаць даследчыкаў... Абы даў Бог спрыянне.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

**Надрукавана ў скароце. Цалкам чытайце на zbsb.org**

рэпартаж

# З КІМ ТАНЧЫЎ І НА ЯКІЯ АДЗНАКІ ВУЧЫЎСЯ АЛЯКСАНДР НАДСАН

*Над розовым морем вставала луна,*
*Во льду зеленела бутылка вина.*

Знакамітыя радкі з песні Аляксандра Вярцінскага. Як думаеце, якая сувязь у гэтых радкоў з беларускай вёскай Студзёнкі? Вёскай, якая месціцца паміж мястэчкам Гарадзеяй і чыгункай? Дзе ёсць маляўнічыя старыя сажалкі, дзе прабягае рэчка Уша і дзе зусім няма ружовага мора?

Я іду ўслед за работнікам гарадзейскага цукровага камбінату Аляксандрам Абрамовічам. І захоплена яго слухаю.

– Бацька расійскага паэта Георгія Іванава, Уладзімір Іванаў, у 1899 годзе ў рыжскага прадпрымальніка Шэпелера купіў гэты маёнтак. І жыў тут. У 1906-м тут здарыўся пажар. Жонка паэта Ірына Адоеўцава ў сваёй кнізе "На берагах Сены" распавядае і пра нашы Студзёнкі, і пра той пажар. А я знайшоў у архіве – знарок у Мінск ездзіў – справу аб продажы маёнтку Студзёнкі Уладзіміра Іванава за даўгі. Бацька паэта ўчыніў самагубства ў 1907 годзе, застрахаваўшы сваё жыццё. Каб дзецям нешта засталося. Я хацеў бы, каб каму з даследчыкаў трапіла на вочы вось гэта. Адоеўцава піша пра Студзёнкі наступнае: "Поэт Мицкевич, посетивший их когда-то, посвятил им стихи. «Ева потеряла рай. И нашла его снова в Студёнках»". Вельмі добра было б даведацца, ці сапраўды ў Міцкевіча ёсць такое?

Жыў сабе звычайны чалавек, працаваў на заводзе, але аднойчы знайшоў старую, яшчэ 19-га стагоддзя мапу сваёй вёскі. І гэта абудзіла ў чалавеку прагу даведацца пра вёску нешта большае. Так Аляксандр Абрамовіч стаў краязнаўцам і калекцыянерам рэдкіх дакументаў.

– Гэтая мапа складзеная ў 1911 годзе. Пасля пажару. Калі Іванаў прадаў маёнтак памешчыку Міхаілу Іскрыцкаму.

Гуляць з краязнаўцам па любой вёсцы не проста цікава, а неверагодна цікава. Бо самы банальны краявід адразу ж напаўняецца таямніцай. Вось, напрыклад, я бачу дарогу, якая ўпіраецца ў чыгунку. Абапал дарогі пустыр. Усё. Нічога цікавага. А мой суразмоўца бачыць старыя могілкі, якія даўно знесьлі. Бачыць месца, дзе была капліца-пахавальня мясцовых шляхціцаў Каліноўскіх. Бачыць надмагільны камень Віктара Каліноўскага. Ды яшчэ шмат чаго бачыць.

– Вось на гэтым пагорку былі могілкі. І ў 60-я гады мінулага стагоддзя гэтыя могілкі знесьлі. А тут была капліца. Верагодна, шляхціцаў Каліноўскіх. І калі пачалі зносіць, людзі звярнуліся да ўладаў. Што ж вы робіце? Людзі ўспомнілі, што ў часы вайны тут было расстраляна 12 ваеннапалонных. Прыехала міліцыя, тэрыторыю ачапілі. Сабралі трохі касцей і пахавалі ў брацкай магіле. А потым гэтую зямлю бралі падсыпаць дарогу. І косці валяліся па дарозе.

Пра тое, што некалі на беразе сажалкі была шляхецкая сядзіба, сёння нагадваюць толькі зарасці бэзу. А на месцы былога маёнтку жыве жанчына з унікальным лёсам. 74-гадовая Вольга Мысліцкая нарадзілася і доўгі час жыла на хутары. Яе сям'я ніколі не ўступала ў калгас. Як бы бедна ні было.

– У майго дзеда было дзесяць гектараў зямлі. Памятаю, як сяджу і дрыжу, калі прыедзе "бобік". Поўны "бобік" сельсаветаўскіх начальнікаў. У памяці засталося, як хромавыя боты – рып, рып. І пісталет збоку вісіць. Першы раз прыехалі і апісалі ўсё. Карову апісалі, авечкі, баран быў, коні былі, вуллі. Апісалі нават шафу, апісалі падушкі. Апісалі ўсё і паехалі.

Як не вяжуцца вобразы старога маёнтку і гэтыя гісторыі – як людзей, яшчэ нядаўна вольных гаспадароў, заганялі ў калгаснае стойла. Апісаную маёмасць даводзілася хаваць па блізкіх і далёкіх суседзях. А перад чыноўнікамі разыгрываць спектакль.

– Пытаюцца: "Гаспадар, а дзе гэта ўсё?" Мы ўсе калоцімся. Тата кажа: "Вунь, шкурачка вісіць над печкай. То авечка. Астатніх сам з'еў". – "А дзе шафа?" – "А я прывёў каня з каровай. Яны як сталі яе есці, толькі трэскі паляцелі". – "Пайшлі адсюль. Ён вар'ят!" Сказалі "дурны" і адчапіліся.

Метады, якімі карысталіся савецкія органы, былі абсалютна акупанцкія. Болей забраць, страшней напалохаць, у крайнім выпадку дэпартаваць. Бацька Вольгі памёр у 42 гады, не вытрымаўшы новых парадкаў.

Аляксандр Абрамовіч збірае ў ваколіцах Гарадзеі дакументы, фотаздымкі, распіскі. Цяжка паверыць, што гэтыя пажоўклыя, спарахнелыя паперкі з пячаткамі і роспісамі калісьці адыгрывалі лёсавызначальныя ролі.

– Вось пропуск І сусветнай вайны. Што селянін Мінскай губерні прызнаецца "благонадёжным" і можа з лазарэта ехаць на месца жыхарства. Петраград, 1916 год. А вось паперкі польскага часу. Запрашэнні на танцулькі.

А вось паперка без пячаткі. Пісьмовая просьба ад афіцэра НКВД. Гэтая абрэвіятура за гады толькі набрала яшчэ большай злавеснасці. І за кожнай паперкай чыясьці крыўда ці драма. Ці, наадварот, радасць.



Яніна Ялтыкова

Вось той дакумент, за знаходку якога Абрамовічу не аднойчы скажам дзякуй. Школьны атэстат Аляксандра Надсана. Вучня "школы повшэхнэй" за 1935–36 навучальны год. Вучыўся будучы святар някепска. На "добжэ" і "бардзо добжэ".

– Гэты атэстат я знайшоў на гарышчы гарадзейскай хаты, дзе жыў Надсан і дзе была школа. За польскім часам кожны год выдавалі такое пасведчанне. Гэтая папера вельмі брудная была, ужо развальвалася. Аляксандр Надсан яшчэ перад смерцю прызнаў сваю хату. Па здымку.

У мястэчку Гарадзеі я дзякуючы Абрамовічу пазнаёміўся з унікальнай жанчынай. Унікальнай ва ўсіх сэнсах. Яніна Ялтыкова – дачка закатаванага польскімі ўладамі дзеяча КПЗБ Аляксандра Скачко, былога чырвонаармейскага лётчыка. Пані Яніне налета спаўняецца 90 гадоў. Але сваім жыццялюбствам яна можа падзяліцца не з адною сотняю сваіх значна маладзейшых суграмадзян. Пані Яніна займаецца сур'ёзным бізнесам. Яна трымае салон вясельных сукенак. І не толькі вясельных. Я толькі ступіў на парог яе дома, як тут жа быў узяты ў абарот як патэнцыйны кліент. Бо маю дзвюх дачок!

– Вось такія сукенкі бралі для школьнага балю, вось для маленькіх. Да мяне з Мінска прыязджаюць. Бо ў вас там невядома як дорага. Усе да мяне едуць. Я гэтым з дзяцінства займаюся. У мяне і мама шыла. Мінчанкі хочуць сукенкі строгія. А ў мяне з лілеямі. Лілея – гэта святая кветка. У нас касцёл Святога Язэпа. Там ікона ёсць з вялікай лілеяй. У Мінску плацці па сем мільёнаў. А ў мяне па два мільёны. Бачыце, якія лілеі раблю? Элегантна!

Вось што такое сапраўдны мястэчковы гешэфт. "Мястэчковы" ў высокім сэнсе гэтага слова. Далібог, вельмі хочацца стаць кліентам такой мадысткі. Але я завітаў да пані Ялтыковай не па сукенку.

– Вы знаеце, хто такі Бочка? Гэта мой аднакласнік! Сімпатыя была! Мы з ім пры Польшчы скончылі па шэсць класаў. Які ён тады прыгожы быў! Як мы вытанцоўвалі з ім мазуркі!

Пры ўспаміне пра Аляксандра Бочку і без таго ясныя вочы пані Яніны проста загарэліся юным бляскам! Відаць, Надсан любіў і ўмеў танцаваць мазурку. Калі праз 70 гадоў пажылая мадам маладзее на вачах.

– Ён такі быў! Апошні раз ён сюды прыязджаў на магілу маці паставіць помнік. Агароджу прыгожую, усё па матцы зрабіў. Шура – гэта быў... О! Як цяпер памятаю. Паланэзы. Як толькі якія танцы, мы з ім на пару. Ой! Ой!..

Дом, дзе ў трыццатыя гады ў адной палове вучыліся дзеці, а ў другой жыў настаўнік Бочка, стаіць каля самага чыгуначнага пераезду. Аляксандр не перастае здзіўляць мяне вынікамі сваіх пошукаў. Аднакласнікаў Надсана ён адшукаў за акіянам.

– Я звязаўся па скайпе з Ганнай Юльянаўнай Новік, якая ў Амерыцы жыве. Яна напісала, што баяліся Бочкі. Гэта значыць, настаўніка матэматыкі, бацькі Надсана. Думалі, што ён вельмі строгі. Вось такі ў іх быў нескладаны вершык. "Дано, што Бочка лезе праз вакно. Дапусцім, мы яго ня пусцім. І трэба даказаць, як яго паймаць".

Дзякуючы руплівасці Аляксандра Абрамовіча і неабыякавасці мецэната Паўла Бераговіча стары дом выкуплены. Цяпер ён у добрых руках. Колішняя школа яшчэ ажыве беларускімі галасамі.

**Зміцер Бартосік, "Радыё Свабода"**

асоба

# ПАНІ ЭЛЬЖБЕТА, ПАЖЫЦЦЁВЫ ПАСОЛ БЕЛАРУШЧЫНЫ Ў ПОЛЬШЧЫ

85-годдзе адзначае знаная беларусістска, былая кіраўніца кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта і кафедры беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку, першы амбасадар Польшчы ў Беларусі Эльжбета Смулкова. Да юбілею друкуем раздзел кнігі журналіста "Радыё Свабода" Валера Каліноўскага "Пані Эльжбета. Гісторыя адной прыязні".



## Беларусь–Польшча: сёння і заўтра

Ад заканчэння дыпламатычнай місіі Эльжбеты Смулковай у Мінску прайшло больш за 20 гадоў, і ўвесь гэты час яна займалася беларускай тэматыкай на навуковым узроўні. Да апошняга часу яна была таксама кансультантам польскіх грамадскіх арганізацый у беларускіх пытаннях. Пані Эльжбета не можа выказваць афіцыйных пазіцый ад імя Польшчы, але мае сваё меркаванне як эксперт, таму я задаў ёй некалькі пытанняў пра сённяшні стан і будучыню беларуска-польскіх дачыненняў.

**– У 1996 годзе, пасля разгону Вярхоўнага Савету, Польшча ўвяла стасоўна Беларусі палітыку "крытычнага дыялогу", абмежаваўшы сустрэчы на вышэйшым узроўні, далучылася да ўсіх еўрапейскіх санкцый супраць кіраўніцтва Беларусі. Востры канфлікт быў вакол непрызнання ўладамі Беларусі кіраўніцтва Саюза палякаў, абранага ў 2005 годзе, некалькі разоў з Мінска адклікалі ці высылалі польскіх амбасадараў. Чаму так кепска пайшлі справы пасля вашага ад'езду?**

– Галоўную прычыну можна бачыць у штораз больш аўтарытарным рэжыме Аляксандра Лукашэнкі. Рэжым прывёў да палітычнай ізаляцыі Беларусі Захадам і Польшчай разам з ім. Лукашэнка свядома згортваў дачыненні з Захадам і нарошчваў сувязі з Расіяй. Усім было зразумела, якое можа быць раўнапраўе ў саюзе Беларусі з Расіяй. Гэта ўспрымалася як падпарадкаванне Маскве і страта спадзеву на тое, што Беларусь пойдзе ў кірунку супрацы з Еўрасаюзам і з цягам часу далучыцца да яго. Польскія ўрады разумелі гэта, але кантакты стараліся захоўваць. Розныя інстытуцыі супрацоўнічалі з беларускай грамадзянскай супольнасцю і апазіцыяй, дапамагалі ім. Пасля далучэння да Еўрасаюза Польшча дзейнічае згодна з яго агульнымі правіламі і не можа пагадзіцца на абмежаванні правоў чалавека ў Беларусі. Былі розныя намаганні з нашага боку, каб гэтыя дачыненні надалей не былі спыненыя і пагоршаныя – перадусім у гаспадарцы, культуры, навуцы – але ўжо на ніжэйшым узроўні.

Палітыка Польшчы ішла ў кірунку добрых дачыненняў і дэмакратызацыі Украіны і Беларусі. Можна падазраваць, што польскія палітыкі недаацэньвалі Беларусь як дзяржаву, падобна, як і заходнія. На Беларусь глядзелі як на спакойнага суседа, з якім не было трагедый, а значыць, і цяпер не будзе. А потым у Беларусі дайшло да абмежавання дэмакратыі, і таму цяпер, калі пра Беларусь гавораць у польскіх медыях, то часта як пра нешта нядобрае. Мне балюча слухаць, калі часам унутраныя дрэнныя польскія падзеі параўноўваюць з парадкамі ў Беларусі. Беларусь стала пудзілам, якое атаясамліваецца ў Польшчы з аўтарытарнай уладай. Я назіраю ў беларускім грамадстве выразны рост пачуцця патрэбы беларускай самастойнасці, вартасці існавання дзяржаўнасці. Праблемы "тутэйшых" хіба ўжо няма, гэта стала гісторыяй, людзі атаясамліваюць сябе з Беларуссю. Думаю, што незалежна ад усіх умоў працэс пэўнай нацыянальнай кансалідацыі і дэмакратызацыі няўхільны, яго не спыніць.

**– Беларусь і Польшча гістарычна і культурна вельмі блізкія, не ваявалі ніколі між сабою. Цяпер жа мы раздзяліліся цывілізацыйна, ментальна, і гэта выглядае ненатуральным. У чым глыбінныя прычыны гэтага падзелу?**

– У многім гэта залежыць ад глыбіні рэштак савецкасці, на якую Польшча паддалася не нагэтульк, як Беларусь. Мы былі таксама пад даволі сур'ёзным яе ўплывам у часы СССР, і думаю, што наступствы гэтага яшчэ не сышлі дарэшты. Нашаму грамадству таксама пачаткова было не гэтак лёгка мяняцца, хоць і не настолькі цяжка, як у Беларусі, дзе і надалей адбываецца цывілізацыйнае падпарадкаванне Расіі, а дадаткова гэтаму спрыяе неаўтакефальнае праваслаўе. Але гэта не безнадзейна. У нас на Беласточчыне ёсць праваслаўныя вернікі, якія інтэграваліся ў грамадства заходняга тыпу. Думаю, што і Беларусь можа гэта зрабіць.

**– Улады Беларусі хочуць, каб была эканамічная супраца з Польшчай, але каб пры гэтым тая не зважала на правы чалавека і палітычную сітуацыю. Ці магчыма, каб Польшча рабіла з Беларуссю бізнес, не звяртаючы ўвагі на іншае?**

– З нашага боку таксама ёсць зацікаўленасць гандлем, эканамічны кантакт сапраўды можа адбывацца незалежна ад ідэалогіі, але яго стрымлівае адсутнасць гарантый выканання законаў.

**– А ці могуць замяніць дзяржаўныя сувязі паміж уладамі Польшчы і Беларусі кантакты на ўзроўні грамадскіх структур, асобных актыўных людзей?**

– Сувязі ў навуцы, культуры і цяпер адбываюцца. Там, дзе людзі гэтага хочуць, ніякая дзяржава не перашкодзіць. Калі мы рыхтавалі навуковы праект па Браслаўшчыне, то нашыя беларускія супрацоўніцы бралі ў ім удзел коштам свайго адпачынку. Калі праца была апублікаваная, то для прэзентацыі нам далі залу ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, але фінансаваў сустрэчу Польскі інстытут. І я мела прыехаць на гэтую прэзентацыю, але акурат тады ўлады Беларусі выслалі з Мінска Лешака Шарэпку, польскага амбасадара. Я не паехала на знак пратэсту, напісала, што не магу прысутнічаць на прэзентацыі ў такіх умовах. Але ўсё прайшло добра, вельмі шмат людзей адрэагавала пазітыўна і цёпла, з разуменнем праблемы.

Культурны, навуковы абмен можа замяніць міждзяржаўныя дачыненні, і Польшча гэтаму спрыяе, каб не парваліся людскія стасункі. У гэты абмен ангажавалася і польская дзяржава. Тэлеканал "Белсат", стыпендыі для студэнтаў, прытулак для былых беларускіх палітвязняў – доказ таму, што польская дзяржава зацікаўленая ў дэмакратызацыі і незалежнасці Беларусі.

**– Як вы ўяўляеце адбудову польска-беларускіх дачыненняў, як яны могуць выглядаць у найлепшым стане?**

– Каб дачыненні былі як з суседскай сяброўскай краінай, у якой жывуць таксама нашыя суродзічы, людзі, што прызнаюцца ў прыналежнасці да польскай нацыі, з краінай, у якой ёсць нашыя пахаванні, з якой мы мелі супольную гісторыю, у якой не заціраецца тое, што было, і не ствараецца нейкі фальшывы вобраз Польшчы. З краінай, у якой будуецца ўласная культура і дзяржаўнасць і з якой мы знаходзім паразуменне і супольныя эканамічныя інтарэсы. Дачыненні паміж Польшчай і Беларуссю залежаць не толькі ад нашых дзяржаў і людзей добрай волі, а ад шырэйшых, не толькі рэгіянальных, палітычных і эканамічных умоў, і трэба старацца наколькі мага карысна для абодвух бакоў знаходзіць сваё месца ў глабальнай палітыцы.

**– Як думаеце, калі ўдасца адхіліць ад улады Аляксандра Лукашэнку, ці змогуць беларусы спадзявацца на польскае плячо падтрымкі?**

– Усё залежыць ад таго, як беларусы будуць арганізоўвацца, наколькі змены грамадскага, палітычнага і эканамічнага жыцця пойдуць у кірунку рэформаў, праведзеных на Захадзе і ў нас. Наколькі новая ўлада пойдзе гэтым шляхам. Я лічу, што Польшча зацікаўленая ў тым, каб яе суседзі, як Літва, прэтэндавалі на далучэнне да еўрапейскай супольнасці. Беларусь жа цяпер разглядаюць на Захадзе як філію Расіі, якая дэкларуе, што хоча жыць у супольнасці з усходнім абшарам. Так што ад самой краіны, ад самой дзяржавы Беларусі перадусім залежыць, якую яна для сябе абярэ дарогу – еўрапейскую ці еўраазіяцкую.

**Паводле Валера Каліноўскага, "Радыё Свабода"**

**Надрукавана ў скароце. Цалкам чытайце на zbsb.org**

**навіны**

## БЕЛАРУСЫ КАНАДЫ ЗЛАДЗІЛІ ВАНДРОЎКУ ДА БЕЛАРУСКАГА ПАМЯТНАГА КРЫЖА Ў МІДЛЭНДЗЕ

Вандроўка да Беларускага Крыжа ў Прошчы Пакутнікаў што ля Мідлэнда (Антарыа) адбылася 4 чэрвеня.

Сябры Згуртавання Беларусаў Канады і Парафіі Св. Кірылы Тураўскага Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы штогод наведваюць гэты сімвал веры і беларушчыны. Сёлета акрамя мемарыялу беларусы завіталі ў музей сярэднявечча, што паўстаў у аднаўленым манастыры побач з Прошчай.

Крыж упершыню паўстаў у 1988 годзе ў гонар 1000-годдзя хрысціянства на Беларусі. Арганізатарамі і галоўнымі фундатарамі гэтага праекту былі Вінцук і Раіса Жук-Грышкевічы, удзел прымалі дзеячы беларускай эміграцыі з усяго свету. У 1995 годзе побач усталявалі камень у памяць усіх загінулых ад рук камуністычных катаў. У 2013 годзе крыж давялося дэмантаваць, бо ён спарахнеў дашчэнту. Тады ж новае пакаленне беларускай эміграцыі



аднавіла крыж, пацвердзіўшы сваю вернасць беларушчыне. Аўтар новага крыжа – Юрась Шаўчэнка.

Правялебны Уладыка Святаслаў прачытаў малітву за беларускі народ. Старшыня Згуртавання Беларусаў Канады Дзмітры Эльяшэвіч прачытаў верш Наталлі Арсенневай, які яна прысвяціла крыжу ў Мідлэндзе.

Напрыканцы афіцыйнае часткі імпрэзы сябры ЗБК праспявалі гімн “Магутны Божа”.

**belaruscanada.org**

**навіны**

## У ІРКУЦКУ АДКРЫЛІ ЭТНАКАВЯРНЮ Ў БЕЛАРУСКІМ СТЫЛІ

У Сібіры адбылося адкрыццё этнакавярні “Беларуская глеба”, дзе будуць падаваць толькі беларускія стравы.

““Глеба” па-беларуску значыць “зямля”. Цяпер часцінка беларускай зямлі з’явілася ў Іркуцку. Сустрэлі нас шырокімі абдымкамі і ўтульнай хатняй беларускай кухняй. Заслухаліся госці меладычнымі беларускімі песнямі ў выкананні ансамбля “Крывічы”, бурныя апладысменты атрымала музыка і спявачка Таццяна Беланогая з Мінска. І, вядома ж, не абышлося без народных беларускіх танцаў”, – напісала спадарыня Алеся Стасевіч у суполцы іркуцкага моладзевага клубу “Крывічы” ў “Фэйсбуку”. Яна ж і выклала здымкі з адкрыцця страўні.



У кавярні працуе калектыў кухараў з Беларусі. Тут будуць падаваць толькі беларускія стравы: дранікі без мукі, бабку, зразы, пражанку, смажанку, зацірку і гэтак далей. Уладальнік страўні – Сяргей Глебец, член клубу “Крывічы” ў Іркуцку.

**МЯ, belsat.eu**

**навіны**

## «РОДНЫЯ СЯЛІБЫ» – ЗНАК МАЁЙ ВЕЛІЗАРНАЙ ЛЮБОВІ І ДАНІНА ПАВАГІ ДА БЕЛАРУСКІХ РОДНЫХ КАРАНЁЎ

Персанальная выстава фотамастачкі і старшыні Праўлення Беларускага культурнага руху Малдовы Ганны Мазур “Родныя сялібы” адкрылася 7 чэрвеня ў Бюро міжэтнічных адносін Рэспублікі Малдова.

На пейзажах фотамастачка прадставіла публіцы мясціны, дзе прайшлі яе дзяцінства і юнацтва: Мінск, а таксама вёскі Беразоўка і Варона (Астравецкі раён), адкуль родам яе бацькі.

У вернісажы ўзялі ўдзел прадстаўнікі дыпламатычных місій, мастакі, старшыні грамадскіх аб’яднанняў беларускай дыяспары Малдовы, сябры і калегі з іншых этнічных суполак.

**Паводле Людмілы Гросу, намесніцы старшыні Праўлення БКРМ**




## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЛІПЕНЬ 2016 ГОДА

3 ліпеня – 120 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Яраслаў Кастыцэвіч, педагог, грамадска-царкоўны дзеяч.

3 ліпеня – 115 гадоў таму, у 1901-м, нарадзіўся Аляксандр Крыт – рэлігійны дзеяч беларускага замежжа.

5 ліпеня – 15 гадоў таму, у 2001-м, у Мінску пачаўся Трэці з’езд беларусаў свету.

5 ліпеня – 20 гадоў таму, у 1996-м, памёр Васіль Вітка (сапр. Цімох Крысько), паэт.

6 ліпеня – 165 гадоў таму, у 1851-м, нарадзіўся Янка Лучына (сапр. Неслухоўскі), паэт.

6 ліпеня – 95 гадоў таму, у 1921-м, нарадзіўся Аляксандр Доўбік, настаўнік.

7 ліпеня – 220 гадоў таму, у 1796-м, нарадзіўся Ян Чачот, паэт.

8 ліпеня – 155 гадоў таму, у 1861-м, нарадзілася Магдалена Радзівіл, мецэнатка.

10 ліпеня – 145 гадоў таму, у 1871-м, нарадзіўся Павел Дземідовіч, этнограф.

10 ліпеня – 125 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Павел Валошын, дзеяч нацыянальнага руху.

13 ліпеня – 150 гадоў таму, у 1866-м, нарадзіўся Напалеон Чарноцкі, публіцыст, перакладчык.

15 ліпеня – 140 гадоў таму, у 1876-м, нарадзілася Цётка (сапр. Алаіза Пашкевіч, у замужжы Кайрыс), грамадска-палітычны дзеяч, паэтэса.

15 ліпеня – 90 гадоў таму, у 1926-м, нарадзіўся Ян Садоўскі, навуковец, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Канадзе.

16 ліпеня – 115 гадоў таму, у 1901-м, нарадзіўся Аляксандр Крыт, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Вялікабрытаніі і ЗША.

16 ліпеня – 40 гадоў таму, у 1976-м, памёр Янка Станкевіч, мовазнавец, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

18 ліпеня – 70 гадоў таму, у 1946-м, памёр Альбін Ярашэвіч, тэолаг.

20 ліпеня – 160 гадоў таму, у 1856-м, нарадзіўся Часлаў Пяткевіч, этнограф.

21 ліпеня – 125 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Сымон Кандыбовіч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне.

23 ліпеня – 110 гадоў таму, у 1906-м, нарадзіўся Антон Валынчык, хормайстар, кампазітар.

23 ліпеня – 50 гадоў таму, у 1966-м, памёр Аляксандр Ружанцоў, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

24 ліпеня – 120 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Аляксандр Орса, доктар прыродазнаўства, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

25 ліпеня – 100 гадоў таму, у 1916-м, нарадзіўся Мікалай Каранеўскі, інжынер, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

25 ліпеня – 10 гадоў таму, у 2006-м, памёр Янка Брыль, народны пісьменнік.

26 ліпеня – 85 гадоў таму, у 1931-м, памёр Міхаіл Пятроўскі, святар.

27 ліпеня – 120 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Язэп Горыд, мастак.

30 ліпеня – 75 гадоў таму, у 1941-м, расстраляны Фларыян Манцэвіч, грамадскі дзеяч.

31 ліпеня – 35 гадоў таму, у 1981-м, памёр Міхась Ларчанка, літаратуразнавец.

**Беларусы ў свеце**
№ 6 (169), чэрвень 2016
Інфармацыйны бюлетэнь МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі. Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27